Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 14. Вільня, Чацьвер, 30-га кастрычніка 1924 г. Год I.

### Канфіскацыя.

**№ 13 „Сялянскае Праўды" з 29 кастрычніка сканфіскаваны камісарам ураду на м. Вільню за зьмяшчэньне перадавіцы „Першы Крок".**

## На пераломе.

Выбары новага англійскага парляманту, вызначаныя на 29 кастрычніка, ўжо адбыліся,—толькі аб выніках іх мы йшчэ нічога ня ведаем: на падлічэньне галасоў патрэбен час.

Якія-б ні былі вынікі гэтых выбараў, мы павінны наперад адзначыць іх вялізарнае значэньне: ад таго, ці перамога будзе на старане працоўных, ці возьмуць ізноў уладу ў свае рукі кансэрватысты, будзе залежаць у значай меры ход палітычных выпадкаў у-ва ўсім сьвеце.

Тое „замірэньне" з Нямеччынай вялікіх дзяржаў, ваяваўшых з ею, якога дабіўся ўрад Мак-Дональда, можа на даўжэйшы час забясьпечыць мір гэтым дзяржаўным волатам — ведама, коштам малых і слабых дзяржаваў. Але Мак-Дональд зрабіў толькі першы крок на гэтай дарозе, і, калі ўлада вернецца да кансэрватыстаў, дык тое, што зроблена Англіяй на міжнародавым грунце, можа быць лёгка „адроблена": яшчэ умова аб узаемным забясьпечаньні дзяржаў процi нападаў не падпісана, яшчэ ў Лігу Народаў не ўвайшла ані Нямеччына, ані Саюз Радавых Рэспублік....

Перамога кансэрватыстаў у Англіі (—а яе трэба спадзявацца!), нясучы перамену ў „новым курсе" міжнародавых адносінаў, перш за ўсё адаб'ецца і на выбарах новага нямецкага парляманту. Тыя пэрспэктывы, якія адкрыты перад Нямеччынай у сувязі з плянам Доўса, могуць быць значна абмяжованы. А тады зусім натуральна, што ў нямецкіх масах можа узьняцца востры пратэст процi цяжараў, якія немцы самахоць узялі на сябе, падпісываючы лёнданскую ўмову. Вынікам такога настрою будзе ўзмацненьне ўплываў тых нямецкіх партыяў, якія і дагэтуль выступалі процi пляну Доўса: гэта—камуністы і нацыяналісты. І нельга сумлявацца, што, паскольку ў выбарнай кампаніі камуністам, хоць і перасьледаваным урадам, удасца адарваць значную лічбу галасоў ад сацыялістаў, пастольку нацыяналісты могуць павясьці за сабой сацыяльна менш усьвядомленыя масы і дайсьці бліскучае перамогі....

Магчыма, што паражэньне партыі працы ў Англіі адаб'ецца ня толькі на Нямеччыне, але і на Францыі: урад Эрыо дзержыцца ў значнай меры дзякуючы таму, што дайшоў да згоды з урадам Мак-Дональда. Упадак апошняга і адмова Англіі прадаўжаць ягоную заграпічную палітыку пагражае пазбаўленьнем Францыі тых кампэнсацыяў, якія Мак-Дональд ей даваў за перамену палітыкі ў адносінах да Нямеччыны. А тады ўрад Эрыо можа лёгка быць скінуты, і кіраўніцтва францускім жыцьцём могуць ізноў захапіць у свае рукі нацыяналісты з п. Пуанкарэ на чале...

Калі гэтак найвялікшыя дзяржавы Эўропы пойдуць у кірунку *рэакцыі*, дык зусім натуральна, што гэта можа знайсьці адгалосак і ў Амэрыцы, якая рыхтуецца да выбараў новага прэзыдэнта. І той пад'ём сярод амэрыканскіх работнікаў і працоўнае інтэлігенцыі, які выявіўся ў выстаўленьні работніцкае кандыдатуры Ля-Фолетта, можа шмат аслабець пасьля спадзяваных вестак аб паражэньні дэмакратыі ў Эўропе...

Няма што і казаць, што паварот Заходняе Эўропы ў кірунку рэакцыі ўзмацуе рэакцыйныя сілы і тых малых дзяржаў, якія прымушаны ўсьцяж прыслухоўвацца да таго, што і як робіцца ў іх „вялікіх пратэктараў". Але гэта ня ўсё: вялікшую вагу меціме той факт, што імкненьне да прымірэньня сёньняшняга *дэмакратычнага* Захаду з *сацыялістычным* Усходам страціць пад сабой падставу. І тое ідэйнае разыходжаньне паміж Захадам і Усходам, якое істнуе і цяпер, заўтра можа перайсьці йзноў у форму вострае барацьбы.

Ці не прадбачучы магчымасьць такога павароту эўрапэйскае палітыкі ўрадавы ўрад павёў такую рашучую палітыку ў Кітаю, манючыся аслабіць тамака ўплывы Эўропы?

Калі да гэтага ўсяго дадаць вядомы факт, што нямецкі нацыяналізм ніколі не зрачэцца ідэі рэваншу (адплаты) за падзел Нямеччыны паводле Вэрсальскага міру. — дык будзе зусім ясна, якую вялікі ўплыў на лёсы Эўропы могуць аказаць вынікі галасаваньня ў Англіі 29 кастрычніка. І зусім магчыма, што гэты дзень у гісторыі Эўропы будзе запісаны, як *дзень пераломy*.

### Пастанова Бел. Пас. Клюбу 23. X. 24 г.

Разгледзіўшы агульнае палітычнае палажэньне ў сучасны момант і прыймаючы пад увагу, што

самыя неабходныя культурныя і матарыяльныя інтарэсы беларускага насяленьня няўпынна дратуюцца і не прызнаюцца ўрадам;

поўнае бяспраўе і нячуваныя зьдзекі адміністрацыі над безбаронным народам давялі працоўныя масы да цэлага раду аружных выбухаў, актаў стыхійнае помсты і самаабароны;

ня гледзючы нават на самые куртатыя законы аб мовах, якія разьлічаны былі на заграніцу, зачыняюцца апошнія беларускія школы, і беларускія дзеці штрафамі заганяюцца ў польскую школу;

ня відаць ніякіх знакоў зьмены датыхчасовай палітыкі на беларускіх землях,—

Беларускі Пасольскі Клюб пастанаўляе прадаўжаць далей вострую опозіцыю да сучаснага ўраду, выяўляючы перад усім сьветам і народам запраўднае палажэньне беларускіх зямель над Польскім панаваньнем.

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

## Аб чым пішуць.

### Водгукі прэсы на экспозе п. Грабскага.

Напярэдадні адкрыцьця Сойму і выступленьня п. Грабскага орган п. Вітаса „Piast" наперад высказаўся аб палітыцы сучаснага польскага ўраду:

> Перад разьездам Сойм даў ураду ня толькі шырокія паўнамоцтвы, але і блізу поўную свабоду дзейнасьці. Такіх лёгкіх варункаў працы ня меў яшчэ дагэтуль ніводзін урад у Польшчы. Аднак, **урад ашукаў ускладаныя на яго спадзяваньні** і даказаў, што **даваньне яму гэных паўнамоцтваў** Соймам было **абмылкай**, якая можа памсьціцца і на Сойме, і—што йшчэ горш—на дзяржаве.
>
> Ня хочам быць галаслоўнымі. У замежнай палітыцы перад намі стаяць **грозныя небясьпекі**, ня гледзячы на тое, што „лейборганы" п. Скшыньскага, міністра заграпічных спраў, апавядаюць цуды аб яго жэнеўскіх удачах....
>
> ... Скандал з нападам пад Лунінцом выявіў нябывалае прост **расстройства адміністрацыі, трусасьць урадоўцаў і нястачу ў іх нават людзкае годнасьці**...
>
> .... Адстаўка ваяводы Довнаровіча ня ёсьць здаваленьне абражанага маестату гаспадарства і чэсьці народу, тут павінен быць і ёсьць адказным увесь урад, як вінавайца гэнае катастрофы, калі ў яго ёсьць хоць трохі пачуцьця сваіх абавязкаў. Калі ён гэтага не разумее, дык Сойм павінен яму гэта напомніць....

Ня дзіва, што, пасьля такога „прывітаньня" з боку „пястоўцаў", нельга было спадзявацца прыхільных адносінаў да ўраду пасьля экспозэ п. Грабскага, аб якім ніхто нічога добрага ня мог сказаць. Найбольш востра выступіў процi п. Грабскага і яго палітыкі пэпээсаўскі „Robotnik":

> П. Грабскі прамаўляў доўга, тры гадзіны. Але зусім ашукаў спадзяваньні. У яго прамове ня было нават сьледу ўрадавае праграмы. Ня было глыбейшае палітычнае мысьлі. Ён не абняў суцэльнасьці нашага жыцьця. Ня было і пляну працы ўраду на будучыну. Гэта была „фаховая" прамова міністра скарбу, занепакоенага станам краёвае гаспадаркі, кідаючага цыфры поўнымі жменямі, стрымліваючага пэсымізм, запавядаючага, што ўсё ж такі будзе лепей, маралізуючага „пагаспадарску". Але гэта ня была прамова прэм'ера, гэта ня было вызначэньне дарогі і кірунку.
>
> ... П. Грабскі ня даў праграмы. Не закрануў нават спраў вялікае вагі, якія стаяць на парадку дня.
>
> ... П. Грабскі прамаўляў, як занепакоены гаспадар, якому маркотна, з прычыны неўраджаю. Але апавяданьне аб клапотах і пацяшаньне, што будзе лепей, ня можа быць прызнана за экспозэ прэм'ера.

На адсутнасьць праграмы — асабліва ў справе „Крэсаў"—жаліцца і орган процілежнае партыі, эндэцкая „Gaz. Warsz.":

> Гаварыў п. Грабскі такжа і аб праблеме нашых усходніх ваяводзтваў. Паміма ўсяго, што ўрад зрабіў у гэтай справе, стан гэтае праблемы—нездавальняючы. Урадавай палітыцы ўсьцяж не хватае ясна вызначанага пляну, а пры выпаўненьні зробленых ужо пастановаў не хватае энэргіі і пасьледавальнасьці.

Што праўда, то праўда: найлепшы прыклад—языковыя законы і.... іх **не** выпаўняньне!

Адзіным апраўданьнем для п. Грабскага і **палітыкі** ягонага ўраду зьўляецца, як-быццам, тое, што ён не палітык, а — **эканаміст**. Аб гэтым кажа „Kur. Warsz.":

